Зберагчы і Паваліччыць
ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
# Дзедзіч
№3 (72) • САКАВІК 2012

Увага!

*"Дзедзіч" пачынае цыкл відэапраглядаў пад назвай "Свабода". Тэлефануйце: (029) 208-79-33.*

# НЕ ДАПУСКАЦЬ БЕЛАРУСІФІКАЦЫІ

Для служебного пользования
Экз. № 1

Председателю облисполкома
Сумару К.А.

ДОКЛАДНАЯ ЗАПИСКА
02.03.2012 № 77-1-ДСП
г. Брест

О выполнении поручений Президента Республики Беларусь (к входящему номеру 58/77-1-ДСП от 02.03.2012)

Уважаемый Константин Андреевич!

Во исполнение поручений Главы государства, данных 24 феврал[я] 2012 г. в ходе совещания по итогам проведения финала Национальног[о] телевизионного музыкального проекта "Еврофест", Первый заместител[ь] Главы Администрации Президента Республики Беларусь А.М.Радьков обратился к Вам с просьбой в 2012 году:

обеспечить оптимизацию расходов местных бюджетов на реставрацию и реконструкцию историко-культурных ценностей, постановку спектаклей, фильмов, концертных программ, проведение культурно-развлекательных мероприятий;

принять конкретные меры по недопущению проведения руководителями государственных органов, иных организаций политики принудительной белорусификации и искусственного сокращения использования русского языка в их деятельности.

Заместитель начальника управления делами облисполкома, заведующий отделом по организационно-методической работе и делопроизводству — О.Н.Климахович

Наша Ніва

**У «Нашу Ніву» трапіў цыркуляр, спушчаны з Адміністрацыі прэзідэнта па вертыкалі.**

Дакумент, які абвяшчае:

*«Забяспечваць аптымізацыю расходаў мясцовых бюджэтаў на рэстаўрацыю і рэканструкцыю гісторыка-культурных каштоўнасцей, пастаноўку спектаклей, фільмаў, канцэртных праграмаў, правядзенне культурна-забаўляльных мерапрыемстваў;*

*Прыняць канкрэтныя меры па недапушчэнні правядзення кіраўнікамі дзяржаўных органаў, іншых арганізацый палітыкі прымусовай беларусіфікацыі і штучнага скарачэння выкарыстання рускай мовы ў іх дзейнасці», -*

ідзе за подпісам намесніка начальніка ўпраўлення справамі аблвыканкама, загадчыка аддзела па арганізацыйна-метадычнай працы і справаводству Вольгі Клімаховіч.

Мы патэлефанавалі ў Берасцейскі аблвыканкам, каб пераканацца ў сапраўднасці дакумента.

«*Так, сапраўдны*, — адразу сказала спн. Клімаховіч. *— Яны ідуць за маім подпісам, бо ўсе дакументы праходзяць праз мой аддзел, а не адразу да Сумара. Адкуль ён да вас трапіў?»*

Даведацца ад Вольгі Клімаховіч, якія меры будуць прымяняць, каб «спыніць прымусовую беларусіфікацыю» нам не ўдалося.

Некалькі гадоў таму ў Берасцейскім аблвыканкаме кіраўнік аддзела ідэалогіі Аляксандр Рагачук прапаноўваў чыноўнікам раз на тыдзень размаўляць на працы і з наведвальнікамі па-беларуску. Рагачук ужо даўно не працуе ў аблвыканкаме, а іншых асаблівых праяваў беларусізацыі ад чыноўнікаў у Берасцейскай вобласці, дый у іншых рэгіёнах, заўважана не было.

Што датычыць першага пункта дакумента, які заклікае да «аптымізацыі расходаў мясцовых бюджэтаў на рэстаўрацыю і рэканструкцыю гісторыка-культурных каштоўнасцей», то гэта можа азначаць спыненне гэтых праектаў.

Зусім нядаўна міністр культуры Павал Латушка запусціў дзяржаўную праграму «Замкі Беларусі», якая мела на мэце адраджэнне многіх замкаў, у тым ліку на тэрыторыі Берасцейшчыны. Цяпер гэтая праграма можа апынуцца пад пытаннем.

Варта адзначыць, што Павал Латушка быў абвешчаны адным з вінаватых у «фальсіфікацыі вынікаў «Еўрафэсту». Міністру, як і старшыні Белтэлерадыёкампаніі Генадзю Давыдзьку былі абвешчаныя вымовы.

Пра якую «беларусіфікацыю» можа ісці гаворка, калі летась па-беларуску ў краіне вучылася толькі 19% школьнікаў — драматычная нізкая лічба.

Пра інтэнсіўную русіфікацыю сведчаць вынікі двух перапісаў насельніцтва, якія праходзілі за часамі незалежнасці. Калі ў 1999 па-беларуску дома размаўляла 36,7% жыхароў краіны, то ў 2009 толькі 23,4%. Няма другой краіны ў Еўропе, дзе б так імкліва змяняўся моўны баланс.

«*Пытанні моўныя ў краіне вырашаныя раз і назаўсёды. Прынамсі, калі я буду прэзідэнтам. Мы гэтае пытанне рашылі на рэферэндуме. Мова — гэта тая сфера, якая не церпіць гвалту. Людзі павінны вырашаць самі. Толькі ідыёт у Беларусі можа адмовіцца ад расійскай мовы. У нас няма тэрмінаў па фізіцы, хіміі на беларускай мове. А тыя, што ёсць, сорамна гаварыць. У рускай мове, не расейскай, як некаторыя называюць, наша душа*», — казаў Лукашэнка ў снежні 2009.

*– Я не стану Вас асуджаць за Вашу пазіцыю,* — пагрозліва адказаў Аляксандр Лукашэнка Ганне Капшуль з дзяржаўнай глыбоцкай раёнкі, якая выступіла за пашырэнне сферы ўжывання беларускай мовы, скарыстаўшыся для гэтага прэс-канферэнцыяй кіраўніка дзяржавы.

*— Я нікога не папракаю. Гэта права кожнага чалавека — выбіраць. І калі вы ставіце пытанне, што руская мова — не родная, то гэта няправільна».*

**nn.by**

У НУМАРЫ:

## АДНЫМ РАДКОМ

### БЕЛАРУСКІ WINDOWS




**Карпарацыя Microsoft абвясціла аб тым, што яе новая аперацыйная сістэма Windows 8 будзе падтрымліваць беларускую мову. Усе папярэднія версіі гэтай сістэмы не былі даступныя па-беларуску.**

У афіцыйным блогу распрацоўшчыкаў Microsoft з'явілася паведамленне аб тым, што новая версія Windows будзе падтрымліваць шэраг новых моваў краінаў, якія развіваюцца. У лік гэтых 14 новых трапіла і беларуская мова.

Агульная колькасць даступных моваў у інтэрфэйсе Windows дасягне 109. Мэнэджэр міжнароднай групы распрацоўшчыкаў Windows Ян Гамільтан патлумачыў, што новыя лінгвістычная магчымасці створаныя з разлікам на рынкі, якія развіваюцца:

– *З Windows 8 мы змянілі наша ўяўленне аб мовах з «прыстасавання для лакальнага рынку» на «прыстасаванне для кожнага і паўсюль». І мы зрабілі прыярытэтам для вас працаваць з любой мовай з любога кампутара з Windows 8.*

Акрамя беларускай, распрацоўшчыкі дададуць у Windows падтрымку таджыкскай, уйгурскай, шатландскай, гэльскай, мовы індзейцаў чэрокі, мовы Валенсіі і іншых моваў народаў, якія, пераважна, не маюць дзяржаўнасці.

Акрамя гэтага, зменіцца выгляд і магчымасці моўнай панэлі Windows. Яна стане асабліва зручнай для сем'яў і арганізацый, дзе кампутарамі карыстаюцца некалькі юзэраў, што размаўляюць на розных мовах.

Да кожнага профіля цяпер можна будзе прывязаць пэўную мову. Да прыкладу, калі ў кампаніі адзін з супрацоўнікаў, што карыстаецца кампутарам, звычайна працуе з расейскай, а іншы супрацоўнік — беларускай, то цяпер у іх не будзе канфліктаў з-за пастаяннага пераключэння раскладак і моваў інтэрфэйсу сістэмы.

**generation.by**

# АДЗНАЧАЕМ ДЗЕНЬ ВОЛІ

**"Дзедзіч" прапануе берасцейцам адзначыць 25 Сакавіка цікава, крэатыўна і па-сяброўску. Запланавана экскурсія, вулічная гульня з пошукам таемных кропак, ускладанне кветак да магіл дзеячоў БНР і нават магчымасць атрымаць віншавальную паштоўку.**

25 сакавіка 1918 года ў акупаваным немцамі Менску Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (былы выканкам Усебеларускага з'езду) прыняла Трэцюю ўстаўную грамату, ў якой БНР абвяшчалася вольнай і незалежнай дзяржавай.

Ужо шмат гадоў беларусы адзначаюць гэты дзень як Дзень Волі. Гэтым разам "Дзедзіч" прапануе берасцейцам адмысловую праграму святкавання. Запрашаюцца і моладзь, і дарослыя, усе жадаючыя, зацікаўленыя гісторыяй сваёй краіны.

**25 САКАВІКА Ў БЕРАСЦІ. ПРАГРАМА.**

12:00 – Трышынскія могілкі. Збор удзельнікаў і экскурсія. Ускладанне кветак да помніка аднаго з дзеячоў БНР Адама Трыпуса, да помніка ахвярам палітычных рэпрэсій.

12:30 – 15:30 – Гульня "БНР-Берасце" (апісанне чытай ніжэй).

15:30- 16:00 – Падвядзенне вынікаў гульні, экскурсія па Вайсковых могілках. Ускладанне кветак да магілы жаўнераў арміі генерала Станіслава Булак-Балаховіча.

16:30-17:00 – Розыгрыш віншавальных паштовак.

17:30 – 19:30 – Узнагароджванне пераможцаў гульні, кава-гарбата.

### ГУЛЬНЯ "БНР-БЕРАСЦЕ"

Пасля экскурсіі па Трышынскіх могілках удзельнікі дзеляцца на каманды па 3-5 чалавек. Старт адначасовы ад выхаду з могілак.

У кожнай каманды свой маршрут. На маршруце неабходна знайсці замаскіраваныя кропкі-пікеты.

На кропцы-пікеце ўдзельнікі шукаюць заданне і мапу з пазначаным раёнам пошуку наступнага пікету.

Першую мапу і заданне вядоўцы выдаюць на старце. Яны ж патлумачаць і прадэманструюць знешні выгляд пікетаў, прыклады месцаў, дзе могуць быць схаваныя заданні. Калі каманда не можа знайсці пікет, ёсць бонус – падказка вядоўцы, якой можна скарыстацца толькі адзін раз.

У гульні ёсць кантрольны час – 15:30, гэта значыць, што усе каманды павінны прыбыць на канчатковы пункт да гэтага часу.

Каманда, якая прыйдзе на канчатковы пункт першай і пры гэтым расшукае ўсе пікеты, атрымлівае прыз, які складаецца з матэрыяльнай і фінансавай частак. Падрабязнасці раскрываць не будзем, але, як запэўніваюць арганізатары, расчаравання на тварах не будзе.

Каб перамагчы ў гульні, патрэбны не толькі хуткасць і ўменне арыентавацца ў горадзе, а таксама веданне элементарных фактаў з гісторыі Беларускай Народнай Рэспублікі. Пазнаёміцца з імі можна, напрыклад, тут: 25 пытанняў і адказаў з гісторыі БНР http://charter97.org/be/news/2010/3/25/27602/.

Арганізатары запрашаюць берасцейцаў прыходзіць камандамі, запрашаць сяброў, каб было весялей гуляць. Зрэшты, 25 сакавіка – наша свята, і толькі ад нас залежыць, ці будзе ў нас святочны настрой.

Па словах кіраўніка "Дзедзіча" Дзмітрыя Шыманскага, такая форма святкавання 25 сакавіка дазваляе не псаваць настрой непатрэбным высвятленнем адносінаў з міліцыяй:

- *Як вядома, на Дзень Волі міліцыя пільна сочыць за тым, каб моладзь не вывешвала сцягі, расцяжкі, і да таго падобнае. Наша праграма дазваляе адзначыць свята, пазбегнуўшы непатрэбных разборак з людзьмі ў пагонах*, - адзначыў Дзмітрый Шыманскі.

**dzedzich.org**



# ШТО ЗГУБІЛІ РЭКТАРЫ БЕЛАРУСКІХ ВНУ

## З-ЗА ВІЗАВЫХ САНКЦЫЙ?

**Санкцыі супраць беларускіх рэктараў былі ўведзеныя Еўразвязам упершыню 21 лютага 2011 года. Сярод гэтых рэктараў, як вядома, і рэктар аднаго з берасцейскіх універсітэтаў М. Часноўскі.**



Агулам сярод 231 асобы, што цяпер маюць статус неўязных у ЭЗ, толькі сем чалавек унесеныя ў «чорныя спісы» за адлічэнні беларускіх студэнтаў. Іх шэнгенскія візы ануляваныя, а рахункі ў еўрапейскіх банках заблакаваныя. Але гэта не галоўныя страты, што панеслі кіраўнікі ВНУ і беларуская адукацыя агулам праз увядзенне візавых санкцый.

**1. БАЛОНСКІ ПРАЦЭС**

У студзені 2012 Балонская працоўная група рэкамендавала адмовіць Беларусі ў яе заяўцы на далучэнне да Балонскага працэсу. Беларусь імкнецца далучыцца да працэсу найперш дзеля падвышэння прэстыжу ўласнай сістэмы адукацыі ў вачах замежных студэнтаў.

Апошнія шанцы ўсё ж такі папасці ў Балонскую сістэму раставалі на вачах у тым ліку і дзякуючы пастаянным напамінам еўрапейскім чыноўнікам аб існаванні ў Беларусі практыкі выкідання студэнтаў з ВНУ за палітычную пазіцыю.

Менавіта за датычнасць да адлічэння студэнтаў «пасля 19 снежня [2010г] або пры іншых нагодах» 5 беларускіх рэктараў і трапілі ў спіс неўязных.

Такім чынам, Балонская працоўная група пастаянна звяртала ўвагу і на існаванне спісу беларускіх кіраўнікоў ВНУ, што паспелі паплаціцца за адлічэнні студэнтаў шэнгенскімі візамі. А ў выніку гэта паўстала адной з прычын немагчымасці ўступлення Беларусі ў Балонскі працэс.

**2. ВАНДРОЎКІ ПА ЕЎРОПЕ**

Між тым, рэктары з «чорнага спісу» не адразу пазбавіліся сваіх візаў, то бок магчымасці ездзіць у ЭЗ бесперашкодна.

У жніўні 2011 году праз 6 месяцаў пасля ўнясення ў «чорны спіс» Еўразвяза свайго прозвішча рэктар БДУ Сяргей Абламейка вырашыў накіравацца ў Італію. Як паведамлялася, на канфэрэнцыю. Верагодным запрашальнікам выступіў партнёр БДУ ўніверсітэт Трэнта, у які Абламейка лётаў за год да гэтага дзеля падпісання дамовы аб супрацоўніцтве.

Але як толькі інфармацыя аб візіце трапіла ў СМІ, амбасада Італіі абвясціла аб ануляванні шматразовай шэнгенскай візы, што была выдадзеная Абламейку яшчэ ў 2010. Рэктар БДУ застаўся дома.

**3. СТУДЭНТАЎ**

У мінулым годзе прэм'ер-міністр Мясніковіч паставіў перад беларускімі рэктарамі амбітны план: павялічыць колькасьць замежных студэнтаў у Беларусі з 9 да 30 тысячаў. Міністар адукацыі Сяргей Маскевіч дапрацаваў план на нечаканы лад: ён вырашыў заняцца «прапрацоўкай еўрапейскага рэгіёну, а канкрэтней — Балканаў, а таксама Індыі». Маўляй, каб не толькі студэнты з Усходу і Афрыкі, але і «еўрапейскія» ехалі ў Беларусь за ведамі і дыпломамі.

Але атрымліваецца пакуль усё інакш. Колькасць замежных студэнтаў сапраўды расце, але па-ранейшаму за кошт такіх краін, як Туркменія і Кітай. Нечакана Беларусь увайшла ў адукацыйныя трэнды ў такой далёкай ад нас, але багатай нафтай і расавымі супярэчнасцямі краіны, як Нігерыя.

**4. РЭПУТАЦЫЮ І ГРОШЫ**

Усе папярэднія пункты ў выніку зводзяцца да стратаў у рэпутацыі, што ў сваю чаргу вядзе да бюджэтных паразаў: няма Балонскага працэсу і замежных студэнтаў — няма і грошай з Еўропы і ад замежных навучэнцаў.

Неслі рэктары ў мінулым годзе і іміджавыя выдаткі: мала хто захоча мець сур'ёзныя справы з людзьмі, чые прозвішчы ўнесеныя ў чорныя спісы Еўразвязу. Асоба рэктара ў спісе людзей, супраць якіх уведзеныя санкцыі — гэта параза ўсяго ўніверсітэту. Гэта, у прыватнасці, прызнае і ўнесены ў «чорны спіс» рэктар Берасцейскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Пушкіна Мечыслаў Часноўскі:

*«Калі абмяжоўваюць кіраўніка, у пэўнай ступені гэта адбіваецца на дзейнасці ўстановы».*

**Паводле: generation.by**

## У СПІС «ПАСОБНІКАЎ» ДАДАЛІ ВЫКЛАДЧЫКАЎ З БЕРАСЦЯ

**Сайт posobniki.com папоўніў спіс асобаў, якія на думку наведвальнікаў гэтага рэсурсу, прычыніліся да палітычных рэпрэсіяў у дачыненні да берасцейскіх студэнтаў. Сярод іх апынуліся трое супрацоўнікаў берасцейскіх ВНУ.**

Як сцвярджаюць аўтары сайта, Мароз Міхаіл Фёдаравіч, намеснік дэкана факультэта Водазабеспячэння і гідрамеліярацыі Берасцейскага дзяржаўнага тэхнічнага ўніверсітэта, падчас правядзення маўклівай акцыі 29 чэрвеня 2011г. прысутнічаў каля плошчы з мэтай выяўлення студэнтаў БрДТУ і далейшага ціску на іх.

За прымушэнне студэнтаў факультэта электроннаінфармацыйных сістэм БрДТУ, якія пражываюць у інтэрнаце, удзельнічаць у датэрміновым галасаванні, папоўніў спіс пасобнікаў дэкан факультэта В.М. Ракецкі.

Пасля падзей 19-20 снежня 2010 года з БрДУ імя А.С. Пушкіна была адлічана студэнтка 2-га курса Аліна Літвінчук. Да яе адлічэння спрычыніўся" дэкан факультэта замежных моў Севярын Сяргей Мікалаевіч. Таму ён таксама апынуўся сярод падсобнікаў.

**Паводле: posobniki.com**

## АДНЫМ РАДКОМ

### У БЕРАСЦІ ВУЧЫЛІСЯ ІНФАРМАЦЫЙНАЙ БЯСПЕЦЫ

**3-4 сакавіка ў Берасці Асамблея НДА пры падтрымцы АРР "Дзедзіч" правяла семінар па пытаннях інфармацыйнай бяспекі для ўсіх, хто хоча пазбегнуць узлома свайго кампутара, паштовай скрынкі і асабістых дадзеных.**



На семінары разглядаліся пытанні бяспечнай сувязі праз інтэрнэт, захоўвання інфармацыі на кампутары і электронных носьбітах. Частка заняткаў была прысвечана метадам дзейнасці спецслужб у дачыненні да кампутарнай інфармацыі і магчымасцям нейтралізацыі іхняга ўплыву на дзейнасць актывістаў. Уздымаліся пытанні выбару якасных праграм і антывірусаў.

Акрамя тэарэтычных лекцый, на другі дзень семінару прайшлі і практычныя заняткі па асваенні неабходнага праграмнага забеспячэння для бяспечнага карыстання кампутарам.

У семінары ўзяло ўдзел 15 актывістаў грамадскіх арганізацый рэгіёна і проста зацікаўленыя людзі. Берасцейская моладзь з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй хоча ведаць, як можна сябе абараніць.

**dzedzich.org**

### СТУДЭНТЫ БрДУ АТРЫМАЮЦЬ НОВЫ ІНТЭРНАТ

**Ужо ў 2012г. студэнты берасцейскага ўніверсітэта змогуць заехаць у новы інтэрнат. Пра гэта распавёў рэктар універсітэта М. Часноўскі.**



Па яго словах, будаўніцтва 9-павярховага будынка інтэрната, разлічанага на 352 месцы, вядзецца ў комплексе "Студэнцкая вёска БрДУ".

Першая чарга гэтага комплексу – аналагічны будынак, уведзена ў эксплуатацыю ў 2003г. Другая чарга комплексу фінансуецца з рэспубліканскага бюджэту.

Такім чынам, універсітэт зможа ў пэўнай ступені палепшыць сітуацыю з рассяленнем іншагародніх навучэнцаў. Праблема забеспячэння студэнтаў месцамі ў інтэрнатах універсітэта стаіць пакуль досыць востра. У 2011/2012 навучальным годзе ВНУ змагла забяспечыць месцамі толькі 50% іншагародніх студэнтаў.

**Паводле БелТА, фота: БелТА**

# ГІСТАРЫЧНАМУ ЦЭНТРУ БЕРАСЦЯ ПАГРАЖАЕ ЗНІШЧЭННЕ

**Прыватная фірма «MFB Development» плануе пабудаваць 6-павярховую гасцініцу на месцы будынкаў № 43 и 45 па вул. Савецкая (насупраць іранскага бізнес-цэнтра), якія уключаны у дзяржаўны спіс гісторыка-культурнай спадчыны.**




**Фасады гісторыка-культурных каштоўнасцяў схаваныя за плакаты з інфармацыяй пра гістроыю і культуру горада**

Нядаўна ў Берасці адбылася горадабудаўнічая рада, якая разглядала праект ад «MFB Development». Не ўсе з ім згадзіліся. Архітэктары са здзіўленнем пыталі – хто ж так будуе? Вакол невялікіх гістарычных будынкаў вырасце 6-павярховая гасцініца. Як жа яна будзе выглядаць на фоне астатняй забудовы?

**ШМАТ ВЕДАЦЬ – ШКОДНА!**

Мясцовы каардынатар Руху «За Свабоду» Дзяніс Турчаняк хацеў даведацца, якую выгаду мае горад ад будаўніцтва гасцініцы, і прасіў прадставіць інфармацыю пра інвестыцыйную дамову паміж аблвыканкамам і прыватнай фірмай «MFB Development». У просьбе яму было адмоўлена, пасля чаго спадар Турчаняк звярнуўся у суд. Але суд адмовіў задаволіць яго скаргу.

> АКТЫВІСТ ПАДКРЭСЛІВАЕ, ШТО ХАВАЮЧЫ УМОВЫ ІНВЕСТЫЦЫЙНАЙ ДАМОВЫ, ГАРАДСКІЯ ЎЛАДЫ ДАЮЦЬ ПАДСТАВУ ПАДАЗРАВАЦЬ ІХ У КАРУПЦЫІ.

Калі хаваць няма чаго, то навошта такая сакрэтнасць, быццам бы будуюць не гасцінцу, а ваенны аб'ект?

**НЯМА МАГЧЫМАСЦІ ДЗЕЙНІЧАЦЬ ПА ЗАКОНУ**

З будынкаў, якія маюць ператварыцца ў гасцініцу, ўжо адсялілі амаль усіх жыхароў. Некаторыя пераязджалі адсюль пасля судовых разбораў. Не выселілі толькі Ўладзіслава Абрамовіча, які ўжо некалькі гадоў змагаецца за сваю нерухомасць.

*«Нядаўна быў на горадабудаўнічай радзе з удзелам берасцейскага мэра, дзе разглядаўся праект будаўніцтва гасцініцы на месцы гістарычных аб'ектаў. Мэр Аляксандар Палышэнкаў сцвярджаў, што складана знайсці інвестараў для рэканструкцыі гэтых будынкаў, каб адбудоўваць іх у існуючых аб'ёмах, каб гэта цалкам адпавядала заканадаўству па ахове гісторыка-культурнай спадчыны*, - расказвае спадар Абрамовіч. – *І ён задаў такое рытарычнае пытанне, ці не згодны я рэканструяваць гэтыя будынкі. А я яму адказаў, што згодны, што знайду і іншых зацікаўленых асобаў, якія мне дапамогуць. Гэтую згоду я пацвердзіў і пісьмова. Зараз чакаю, што мне на гэта адкажуць»*.

***

Актывісты Руху "За Свабоду" сур'ёзна занепакоеныя планамі ўладаў па прыцягненні інвестыцый на перабудову цэнтра горада. Прыклад з двума будынкамі на Савецкай - гэта толькі пачатак. Ці будзе перабудова надалей весціся законным шляхам - пытанне адкрытае.



**Выгляд дома №45 з боку двара**

Нагадаем, што гэта ўжо другая ў гісторыі горада спроба знішчыць яго гістарычны цэнтр. Першая была ўдалая для царскіх уладаў яшчэ ў XIX стагоддзі. На месцы гістарычнага цэнтра была тады збудаваная Берасцейская крэпасць.

Што ж чакае другі гістарычны цэнтр? Ці цяперашнія ўлады будуць настолькі ж абыякавыя да мясцовай гістарычнай спадчыны, як іх папярэднікі?

**dzedzich.org**

# ПАГАСІ СВЯТЛО – ВЫРАТУЙ ПЛАНЕТУ




**31 сакавіка 2012 года каля 2 мільярдаў чалавек па ўсёй Зямлі выключаць святло на 1 гадзіну (20:30 – 21:30 па мясцовым часе), каб выказаць сваю занепакоенасць небяспечным наступствам змянення клімату.**

Сутнасць акцыі заключаецца ў тым, што ўсе людзі і арганізацыі выключаюць святло і электрабытавыя прыборы на адну гадзіну. Такім чынам, за час акцыі можна зэканоміць да 10% электраэнергіі.

Зразумела, адключэнне святла на адну гадзіну не можа прыкметна палепшыць экалагічную сітуацыю ў цэлым, аднак, на думку арганізатараў, акцыя павінна прыцягнуць увагу жыхароў нашай планеты да праблем экалогіі і той шкоды, якую людзі наносяць планеце.

**dzedzich.org**

# АДКАЗ НА ЗАПЫТ "ПА-БЕЛАРУСКУ"

**Юзер ЖЖ pryvid змясціў на старонцы суполкі "Беларуская мова" адказ на свой запыт у падатковую на беларускай мове.**

**За такі правапіс можна ставіць не проста цвёрдую, а зацвярдзелую двойку.**

Як кажа карыстальнік ЖЖ, ён

> "вырашыў праверыць, як дзейнічае заканадаўства аб зваротах у электронным выглядзе".

І атрымаў наступны адказ. 110 словаў, 22 памылкі.

**dzedzich.org**

РЕСПУБЛИКАНСКОЕ УНИТАРНОЕ ПРЕДПРИЯТИЕ
«ИНФОРМАЦИОННО-ИЗДАТЕЛЬСКИЙ ЦЕНТР
ПО НАЛОГАМ И СБОРАМ»


РЭСПУБЛІКАНСКАЕ УНІТАРНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА "ІНФАРМАЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКІ ЦЭНТР ПА ПАДАТКАХ І ЗБОРАХ" 220005, г.Мінск, пр-т Машэрава, 7-123 тэл.(8-017) 269-19-03

РЕСПУБЛИКАНСКОЕ УНИТАРНОЕ ПРЕДПРИЯТИЕ "ИНФОРМАЦИОННО-ИЗДАТЕЛЬСКИЙ ЦЕНТР ПО НАЛОГАМ И СБОРАМ" 220005, г.Минск, пр-т Машерова, 7-123 тел.(8-017) 269-19-03 факс (8-017) 269-19-04

[redacted]

[redacted]
г.Минск
[redacted]

Аб падключенні
да сістэмы кантролю
гандлевых аўтаматаў

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Інфармацыйна-выдавецкі цэнтр по падаткам и сборам» паведамляе, што звесткі пра систэму кантроля гандлевых аўтаматаў размещаны на сайце *www.info-center.by* и там абнаўляюцца.

Каб падключыць сваечасова свае гандлевые аўтаматы лепш загадзе падаць заяўку у любым зручным для Вас выглядзе: па факсу 2691904, щ на электронны адрас: ckta@info-center.by и паведаміць звесткі пра Ваша прадпрыемства, УНП, колькасць і мадели гандлевых аўтаматаў, іх месцы знаходжання, тэлефон, электронны адрас (e-mail) для сувязі з Вамі.

Пры атрыманні ад Вас вышэйзгаданнай заяўкі, на працягу часу з мая па чэрвень спецыалісты нашага прадпрыемства патэлефауюць вам, каб удакладніць час для устаноўкі неабходнага абсталявання (СКНО).

Намеснік дырэктара І.А. Король

# МОВА ЧУЖАЯ-МІЛАЯ

**Па-беларуску вучыцца толькі 0,9% студэнтаў ВНУ. Хоць роднай назвалі беларускую мову 60% насельніцтва.**




Беларускую мову ў якасці размоўнай выкарыстоўвае 23% насельніцтва Беларусі. Такія звесткі апублікаваў Нацыянальны статыстычны камітэт да Міжнароднага дня роднай мовы.

Звесткі атрыманыя ў выніку перапісу насельніцтва Беларусі 2009 года. Пры гэтым у якасці роднай улічвалася мова, якую сам рэспандэнт назваў роднай, альбо мова, засвоеная ім першай у раннім дзяцінстве.

У часе перапісу беларускую мову назвалі роднай 60% жыхароў краіны (5 млн 58. тыс. чалавек), аднак дома на ёй, паводле звестак перапісу, размаўляе толькі 30% насельніцтва. Большая частка насельніцтва Беларусі (70%) аддае перавагу расейскай — на ёй размаўляюць 96% рускіх, 88% украінцаў, 70% беларусаў і 51% палякаў, якія пражываюць у Беларусі. Толькі 26% беларусаў размаўляюць дома на беларускай мове, затое ў якасці гутарковай яе выкарыстоўвае 41% палякаў, якія пражываюць у Беларусі.

Лінгвістычныя характарыстыкі жыхароў розных рэгіёнаў Беларусі адрозніваюцца, адзначаюць у Белстаце. Так, напрыклад, у Менскай вобласці каля 70% насельніцтва ў якасці роднай мовы назвалі беларускую, у той час як у Менску — толькі 35% насельніцтва, а маюць зносіны на ёй толькі 6% жыхароў сталіцы. У астатніх рэгіёнах роднай мовай беларускую лічаць больш за 50% жыхароў.

Паводле звестак статыстыкі, у гэтым навучальным годзе (2011/2012) у групах устаноў дашкольнай адукацыі выхавацелі размаўляюць па-беларуску больш чым з 45 тысячамі дашкольнікаў — гэта 12% дзяцей, якія наведваюць установы дашкольнай адукацыі. У дзённых установах агульнай сярэдняй адукацыі на беларускай мове вывучаюць усе прадметы каля 164 тысяч навучэнцаў (18% усіх школьнікаў). Ва ўстановах сярэдняй спецыяльнай адукацыі на пачатак навучальнага года на расейскай і беларускай мовах навучалася 23 000 вучняў (14% усіх вучняў), на беларускай мове — 1,6 тысячы (каля 1%). Ва ўстановах вышэйшай адукацыі гэтыя паказчыкі склалі адпаведна 164,2 тысячы (37% усіх студэнтаў) і 4,2 тысячы (0,9%) студэнтаў.

У 2010 годзе ў Беларусі было выпушчана 11 040 кніг і брашур накладам больш за 43 млн асобнікаў, з іх 951 (каля 9%) — па-беларуску, гадавым накладам 4 млн асобнікаў.

У тым жа годзе выдавалася 713 газет, на беларускай мове — 185 (26%). Гадавы наклад газет склаў 510,3 млн асобнікаў, пры гэтым больш за чвэрць накладу выходзіла на беларускай мове. Разавы наклад газет склаў 8,1 млн асобнікаў, з іх 1,2 млн асобнікаў — на беларускай мове.

**Паводле: НАША НІВА**

# «ЛЯПІС ТРУБЯЦКОЙ» — ГУРТ ГОДА Ў РАСЕІ

**Гурт «Ляпіс Трубяцкой» стаў трыумфатарам галоўнай расейскай рок-прэміі «Чартова Дюжина. Тор-13», цырымонія ўручэння якой адбылася ў Маскве 7 сакавіка. «Ляпісы» былі прадстаўленыя ў пяці намінацыях, а перамаглі ў трох, уключаючы самую прэстыжную — «Гурт года».**



*«Гэта вельмі важная для нас перамога*, — заявіў пасля атрымання ўзнагарод Сяргей Міхалок. — *"Ляпісы" — маленькі незалежны анарха-сындыкат, мы не ўваходзім ні ў якія шоў-бізнэс-кланы, не ўдзельнічаем у "зорных" тэлешоў, не наведваем свецкія раўты, не спяваем на праплочаных мітынгах. І, тым не менш, нас прызналі лепшым гуртом 2011 года — значыць, мы на правільным шляху!»*

Яшчэ дзьве намінацыі, у якіх перамог «Ляпіс Трубяцкой», гэта «Паэзія» (песня "Я верю", аўтар слоў — Сяргей Міхалок) і «Відэа» (кліп "Я верю", рэжысёр Аляксей Цярахаў). Для Церахава, культавага беларускага кліпмэйкера, які жыве ў Канадзе, гэта ужо 13-я (вельмі сымбалічна!) узнагарода, якую ён заваяваў у творчым саюзе з «Ляпісамі». А тым часам у вытворчасць запушчана чарговая сумесная праца гурта і рэжысёра, у якой, на гэты раз, змогуць прыняць удзел і прыхільнікі «Ляпіса Трубяцкога».

**generation.by**

# У БЕЛАРУСАЎ САМЫЯ МАЛЕНЬКІЯ ЗАРОБКІ

**Нарэшце ўсе краіны апублікавалі снежаньскія звесткі па намінальна налічаным заробку (гэта значыць заробку, з якога яшчэ не ўтрыманыя падаткі).**

Аказалася, самыя высокія даходы цяпер у Польшчы - пад 1000 еўра ўжо. На 80 еўра менш у сярэднім зарабляюць эстонцы.

Здзівілі заробкі расейцаў: сярэднестатыстычна яны апынуліся вышэйшымі, чым заробкі ў Латвіі і Літве. А ўкраінцы ў снежні атрымалі ў сярэднім на 30 еўра больш за беларусаў.

На жаль, нашы заробкі апынуліся самымі маленькімі.

Пры гэтым нават калі ў сярэднім мы будзем зарабляць абяцаныя 500 даляраў (або 375 еўра), то еўрапейцаў мы не дагонім, затое апярэдзім украінцаў.

**Паводле: kp.by**




# МАГНІТЫ СВАБОДЫ

**Прыхільнікі Руху "За Свабоду" выпусцілі партыю магнітаў і налепак з выявамі бел-чырвона-белага сцяга і герба "Пагоня".**



Беларусы вешаюць гэтыя магніты на аўтамабілі, а ў каго іх няма – проста на хатнія лядоўні. Паколькі магніты прызначаюцца больш для аўтамабіляў, то была абрана флюорысцэнтная фарба максімальна яркая, у той жа час якая з'яўляецца адценнем чырвонага. Разлічана гэта на тое, каб прыцягнуць увагу вадзіцеляў, якія едуць ззаду.

Бліжэй да Дня Волі Рух "За Свабоду" арганізуе сустрэчы ў рэгіёнах з аўтамабілістамі, дзе і будуць прэзэнтавацца новыя налепкі і магніты.

У Берасці набыць сімволіку можна на офісе АРР "Дзедзіч" па адрасе вул. Кірава 60 кв.1, тэлефон (029) 161-39-38. Офіс працуе з 10.00 да 13.00.

**dzedzich.org**

# PARIS DE BREST

**Гурт з бадай што самым яскравым сцэнічным вобразам у беларускай музычнай індустрыі завітае 31 сакавіка ў Берасце. "Серебряная свадьба" распачала тур па гарадах Беларусі з новым альбомам "Сардэчная мускулатура". Што карыснага для душы і розуму вынесуць берасцейцы з «маленькага Парыжа», у які ператворыцца клуб City на пару гадзін?**

### ЛІРЫЧНАЕ АДСТУПЛЕННЕ

Памятаю, гадоў пяць, а мабыць, і болей, таму сябар павёў мяне на канцэрт гурта "Садъ" – аўтарытэта для былой дваровай шпаны, якая праводзіла вечары на лаўках і вучыла адзін аднаго грацъ на гітары. Маё дзяцінства, не зважаючы на водгукі "ліхіх дзевяностых", праходзіла крыху інакш, і трапяткіх пачуццяў дзядзькі з "Сада" у мяне не выклікалі. Тым больш, што самі мясцовыя "зоркі" мелі грацъ хвілін дваццаць у канцы канцэрта, а ўвесь астатні час публіку разагравалі нейкія незнаёмыя мне маладыя "рокбанды". У мяне ад звону металу ўжо пачала балець галава, і я амаль ненавідзела свайго кавалера з яго культурнай праграмай.

Але раптам замест чарговых патлатых хлопцаў у драных джынсах на сцэну выйшлі артысты ў экстравагантных жылетах, капялюшах, салістка – у паласатых панчохах, карсеце і з чамаданам. Яны гралі на кантрабасе, трубе, скрыпцы і пелі шалёныя смешныя песні. Я была пад такім уражаннем, што зноў палюбіла свайго сябра і ўвесь свет… Акрамя салістаў гурта "Садъ", якія пасля феерычнага шоў ад "Серебряной свадьбы" нарэшце выйшлі на сцэну – крыху "пад шафэ", у старых кофтах, і селі на табурэтачку нешта брынчаць на гітары…



### СУР'ЁЗНЫ ФРЫК

Сёння гурт "Серебряная свадьба" вядомы як адзін з самых яскравых, нестандартных і цікавых праектаў не толькі ў Беларусі, але і ў краінах СНД. Канцэрты у Маскве, Пецярбургу, Львове праходзяць на "ура". Не зважаючы на тое, што гурт планаваўся, гэтак бы мовіць, "на аматара". Самі артысты называюць сябе "фрык-кабарэ-бэнд", падкрэсліваючы сцёбны, фрыкавы характар тэатралізаваных выступаў на манер французскага кабарэ. Але простая дурашлівасць не прынесла б выканаўцам такога поспеху, які мае сёння "СС" на прасторах былога Саюза. Музыканты, у першую чаргу салістка Бенька (Святлана Залеская-Бень), стварылі непаўторныя глыбокія вобразы, заснаваныя на нацыянальнай глебе.

### МЕСТАЧКОВЫ МАНПАРНАС

Атмасфера французскага кабарэ сярэдзіны мінулага стагоддзя артысты адначасова ідэалізуюць і парадыруюць. Яны паказалі савецкую мару аб прыгожым і цікавым жыцці буржуазнай багемы, водгукі якога прасочваліся праз жалезную завесу да сэрцаў ударніц вытворчасці і спартсменак-камсамолак. Некаторыя з іх спрабавалі ажыццявіць французкі сцэнар жыцця ў постсавецкіх дэкарацыях. Якраз пра такую жанчыну і спявае іранічная Бенька і ўвасабляе яе ў тэатралізаваным вобразе на сцэне.

Лірычная гераіня песень адчувае пастаянны экзістэнцыяльны канфлікт паміж французскай марай і жорсткай пастсавецкай рэчаіснасцю (*"все происходит без цветов, без фильдеперсовых чулков, без ананасов и духов… и даже без одеколону"*). Асабліва драматычнымі становяцца стасункі паміж мужчынам і жанчынай: *"Ей нравилися с детства Робин-Гуды, Но ей встречалися одни верблюды. Ей наплевали в трепетную душу Все четыре мужа"*. Вось не меней трагічная сітуацыя з песні "Малобюджетная любовь":

ТАКАЯ ЖЕНЩИНА, КАК Я,
ДОСТОЙНА ДЕНЕЖНЫХ ВЛОЖЕНИЙ,
А ТЫ ИМЕЕШЬ ЛИШЬ МЕНЯ,
И ТО НЕ В ЛУЧШИХ ПОЛОЖЕНИЯХ…

Жыццё прымушае гераіню мець зносіны з кавалерамі, якія абіраюць не зусім куртуазныя спосабы спадабацца жанчыне: *"Ее пломбиром соблазнял / И кинофильмом про индейцев / И про космических пришельцев / И комплименты учинял"*.

У новым альбоме "Сердечная мускулатура" тэма супрацьстаяння ідэальнага і рэальнага працягваецца – дзяўчынка мела ідэальнае каханне з хлопчыкам (*"ходили в кино, сочиняли рассказы, не ссорясь ни разу – две чистых души"*) да той пары, пакуль мама не заўважыла ў яе вошы. У альбоме з'яўляецца новы лірычны герой – прадстаўнік багемы, мясцовы калега Поля Верлена, якога "*качало от бутылочки винца*".

***

Калі нуда па Францыі і Парыжу не пакідае ваша сэрца, раю завітаць на імпрэзу "Серебряной свадьбы" – і вас вылечаць!

**Альбіна ТРУС**

# ЦІ ПАТРЭБНЫ НАМ КАНЦЭРТЫ?

**На прэзентацыі свайго дэбютніка «Paraslov» ў родным берасці гурт The Fraiz не сабраў і 200 чалавек, тады як канцэрт у менскім Re:Public прайшоў пры поўным аншлагу.**

Сітуацыя ў Берасці з канцэртамі нейкая дзіўная – то нічога, то два адначасова. Канцэрт The Fraiz супаў з канцэртам фіналістаў фэстывалю X-star і нешматлікай берасцейскай публіцы давялося выбіраць.

Удзельнік гурта Алег Шарко паведаміў у інтэрв'ю Тузіну Гітоў пазіцыю The Fraiz: «Мы хочам памяняць палітыку гурта. Не хочацца быць местачковым калектывам.

**ТГ: Алег, гурт задаволены сабой і канцэртам?**

Нам крыўдна, што ў родным горадзе на наш канцэрт не прыйшло нават 200 чалавек. Першага сакавіка выступалі ў менскім Re:Public, дык там была тысяча. Яшчэ 150 чалавек не пусцілі, бо не было месца. Мы не маглі падысці да краю сцэны, бо нас хапалі за ногі і сцягвалі ў зал.

Берасцейцы сапраўды не хочуць хадзіць на канцэрты. Яны лепш у «Кантакце» пасядзяць. Праўда, у Менску быў бясплатны канцэрт, але мы такога больш практыкаваць не будзем.

**ТГ: А ты не думаеш, што частка народу проста пайшла на другі канцэрт?**

І гэта, канечне, таксама сваю ролю сыграла. Не ведаем, навошта арганізатары другога канцэрту так рабілі. Мы загадзя ўсіх інфармавалі, што будзе выступ. Пасля званілі ў «Сферу» (начны клуб, дзе ладзіўся канцэрт фіналістаў X-star. — ТГ), прасілі іх свой канцэрт перанесці. Яны спачатку паабяцалі, а пасля тры дні троста слухаўку не здымалі.

**ТГ: Ці многа сіл укладзена ў прэзэнтацыю?**

Рэпетавалі тры тыдні кожны дзень. Але рэалізавалі ўсяго працэнтаў 20 з таго, што меркавалі і што адпрацоўвалі. Многае зляталa проста ў апошні момант. Я нават перад канцэртам сядзеў і не ведаў, чаго яшчэ чакаць. У нас павінна было быць святло з Кіева, рэжысёр святла з Масквы, відэаролікі да кожнай песні… Але мы ўсё роўна пастараліся выглядаць годна.

**ТГ: Толькі мы так і не пачулі абяцанай песні на беларускай мове…**

Мы вырашылі ўсё ж не спяваць стары матэрыял на новай мове. Усе ведаюць гэтыя песні як расейскамоўныя, і невядома, як слухачы іх сустрэнуць. Калі і рабіць штосьці, то трэба пісаць новыя кампазіцыі адразу па-беларуску.

**ТГ: Зноў будзеце некага прасіць дапамагчы?**

Наш басіст дастаткова добра ведае беларускую мову, каб напісаць такую песню.

**ТГ: Чым зараз будзеце займацца?**

Хочам памяняць палітыку гурта. Разумееш, не хочацца быць местачковым калектывам, хочацца




развівацца, выйсці на новы ўзровень. Для гэтага будзем шмат працаваць. І працаваць на якасць, а не на колькасць. Лепш мы сыграем адзін канцэрт на год, ды пасля яго пра нас будуць гаварыць, чым разменьвацца на шматлікія выступы.

***

Хоць «фрэйзы» і скардзяцца, што яны не зрабілі і паловы запланаванага, выглядалі яны малайцамі. Са святлом усё вырашылася аптымальна, з гукам таксама. Хлопцы пастараліся быць на сцэне не толькі музыкамі, але і акторамі, што таксама ідзе ім у залік.

Ды і слухачы, якіх да гэтага паўгадзіны прымусілі чакаць перад дзвярыма, пакуль артысты настройваліся, у выніку не вельмі наракалі на злы лёс. А арганізатарам канцэртаў усё ж трэба падумаць над сваімі далейшымі паводзінамі.

**Тузін Гітоў**

# БЕЛАРУС У ГАРВАРДЗЕ

**Яўген Барысевіч распавядае пра свой шлях ад сярэдняй школы баранавіцкага раёну і лінгвістычнага ўніверу да сваёй цяперашняй «альма матэр».**



**— З чаго пачыналася твая адукацыя ў Беларусі?**

— Колькі сябе памятаю, мне заўсёды падабалася сустракаць ды пераадольваць выклікі, што паўставалі на маім жыццёвым шляху. Напрыканцы вучобы ў сярэдняй школе у 2000 годзе я вырашыў паспрабаваць паступіць у адзін з лепшых універсітэтаў Беларусі — Менскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт. І я магу назваць сапраўды захапляльнымі тыя чатыры гады, што я вывучаў нюансы ангельскай мовы і літаратуры, нямецкую мову ды шмат чаго іншага.

**— Закранем перыяд паступлення ў Гарвард. Што патрабавалі? TOEFL, якія-небудзь іншыя тэсты?**

— Першае, што мне трэба было ўзяць — гэта тры «выпрабавальныя» класы. Адзін з іх абавязковы — «тлумачальнае пісанне», альбо EXPO. Але яшчэ для таго, каб дабрацца да гэтай класы, трэба было здаць онлайн-тэст па крытычных навыках чытання ды паказаць адпаведныя якасці пісьма на ангельскай мове.

Далей трэба набраць ня меней за 100 (сто) балаў на тэсце інтэрнэт-TOEFL.

**— Як праходзіць навучанне? Наколькі адрозніваюцца патрабаванні да студэнтаў?**

— Што цікава, большасць класаў, якія я да гэтага часу браў, праходзілі ў фармаце «лекцый». Аднак амерыканская лекцыя — гэта зусім іншы працэс, калі параўноўваць з беларускімі навучальнымі рэаліямі. У ЗША вы ўжо павінны быць падрыхтаваным да лекцыі: прафесар ужо чакае, што студэнты прачыталі неабходны матэрыял да таго, як ён пачне тлумачыць дадатковыя нюансы ці новую тэму.

Калі ваш прафесар правёў лекцыю, скажам, у аўторак, тады ў сераду вам давядзецца ісці на семінар, які праводзяць вучэбныя асістэнты па гэтаму матэрыялу ды інфармацыі, што была прадстаўлена раней. Так, семінары адбываюцца на працягу ўсяго вучэбнага семестру.

Прафесар можа мець да пяці вучэбных асістэнтаў. Яны галоўным чынам даюць інфармацыю па новых падзелах, ацэньваюць працу студэнтаў, хатнія і іншыя заданні, праводзяць іспыты.

Такім чынам, вяртаючыся да пытання, што ж чакаюць ад студэнта. Па-першае, быць гатовым да занятку (г.зн. матэрыял павінен быць прачытаны і асэнсаваны) ды выконваць усе хатнія заданні, тэсты. Па-другое, неабходна ўдзельнічаць у онлайн-дыскусіях ды форумах на вэб-старонцы вывучаемага прадмету. Ну, і трэцяе, — трэба быць падрыхтаваным да выніковага экзамену. Хатнія заданні і праца на працягу семестру звычайна складаюць 30–40% ад выніковай адзнакі.

**— Наколькі выкарыстоўваюцца пад час навучання новыя тэхналогіі? Ці ёсць online-экзамены?**

— Шырока выкарыстоўваюцца online-тэсты-апытанні, кантрольныя, калі за дадзены час трэба выканаць адпаведныя заданні. Але нягледзячы на шырокае выкарыстанне тэхналогіяў, усе сярэдне тэрміновыя або фінальныя экзамены здаюцца непасрэдна ў «жывым» фармаце.

**— Наколькі можаш выбіраць курсы сам? Вядома, што ў ЗША сістэма працуе па-іншаму, чым у Беларусі: студэнту прапануецца выбар прадметаў, якія можна вывучаць.**

— Гэта залежыць толькі ад студэнта і менавіта яму вырашаць, якія курсы ён ці яна будзе на працягу гэтага семестру вывучаць. Перш чым запісацца на клас, вы вывучаеце план (сылабас), каб даведацца пра тое, чаму вас будуць вучыць ды ўсе патрабаванні дадзенага курса-прадмета (даты усіх экзаменаў, тэмы хатніх заданняў). Усе навучальныя праграмы маюцца загадзя.

**— Колькі гадзін звычайна ў цябе займала ў дзень падрыхтоўка хатніх заданняў? А таксама распавядзі пра тое, што ўплывала на выбар колькасці курсаў за семестр?**

— Наогул, тэарэтычна можна за адзін семестр браць да 16-ці крэдытаў (чатыры класы па чатыры крэдыты). Але пры вялікім жаданні можна, звярнуўшыся да свайго дарадцы, узяць і дадатковыя курсы.

І ўжо адміністрацыя надалей вырашыць ці даць вам магчымасць вывучаць ажно 5–6 курсаў. Як правіла, больш за 20 крэдытаў пацягнуць за семестр амаль немагчыма.

Можна сказаць, для мяне было правілам штодзень працаваць 4–5 гадзін плюс амаль усе суботы і нядзелі. І гэта яшчэ не ўлічваючы час, які патрэбны для вырашэння ўсялякіх дадатковых праектаў ды непасрэднай падрыхтоўкі да мідтэрмаў (экзамен што праводзіцца пасярэдзіне курса навучання) і файналсаў (выніковыя іспыты).

**— Якімі якасцямі, ты лічыш, трэба валодаць, каб паспяхова вучыцца ў топ-універы, якой безумоўна з'яўляецца твая Гарвардзкая школа?**



— Безумоўна, студэнт павінен быць разумным, цікаўным, творчым, самастойным, бо трэба заўсёды знаходзіць матывацыю для самога сябе. Але, лічу, няма нічога больш істотнага чым працавітасць і адказнасць.

Ня трэба баяцца альбо занадта турбавацца — калі вы прысутнічалі на ўсіх лекцыях, удзельнічалі ва ўсіх вэбінарах, прачыталі ўвесь патрэбны матэрыял і зрабілі ўсе хатнія заданні. Усе курсы прызначаны для таго, каб навучыць студэнта, а ніяк не перагрузіць яго.

**— Якія яшчэ ты б адзначыў важныя адрозненні беларускага варыянту навучання да амерыканскага?**

— Там я не турбаваўся з-за напружанага навучальнага працэсу. Што мяне сапраўды ўразіла — гэта тая ўвага з боку выкладчыкаў ды асістэнтаў, якой яны персанальна «адорваюць» кожнага студэнта, дапамагаючы ды кансультуючы па ўсіх патрэбных нам пытаннях. Калі ў вас паўсталі пытанні адносна лекцыі, нейкага задання — вы папросту звяртаецеся да свайго прафесара ці яго асістэнта, і можаце быць упэўнены, што яны зробяць усё залежнае ад іх, каб вашыя пытанні былі вырашаны.

Для гэтага можна папросту наведаць выкладчыка пад час яго працы ў сваім офісе.

Да таго ж усе курсы маюць свае вэб-старонкі, дзе вы маеце доступ да усіх лекцый, слайдаў, што паказваліся пад час заняткаў, прысутнічаюць форумы з абмеркаваннямі розных тэм.

**— Пра Гарвард мы чуем, можна сказаць, з дзяцінства. Пра яго крутых (у розных сэнсах) выпускнікоў здымаюць фільмы, выпускнікі займаюць кіраўнічыя пасады ў шматлікіх буйных карпарацыях па ўсім свеце. Тым самым у нашай падкорцы знаходзіцца інфармацыя пра нібыта завоблачны ўзровень універа, як па ўзроўні вучэбных патрабаванняў, гэтак і па грашовых. Ці ён сапраўды завоблачны?**

— Кошт навучання — ад 10,000 да 80,000 даляраў за год. Але ў тым-та і фішка, што дзякуючы сапраўды агромністай падтрымцы выпускнікоў універсітэта, ён мае значны фонд ахвяраванняў.

Згодна з выданнем Harvard Gazette, 2/3 першакурснікаў у Гарвардзе атрымліваюць фінансавую дапамогу (гаворка ідзе пра сумы да 50 тысяч даляраў за год!).

Універсітэт сапраўды зацікаўлены ў прыцягненні і ўтрыманні лепшых і самых разумных. Гэта я кажу як пра студэнтаў, гэтак і пра выкладчыкаў.

**— Наколькі цяжка табе было аплачваць кошт навучання?**

— Чатыры курсы, што я звычайна бяру за семестр, плюс падручнікі і вандраванні абыходзяцца ў прыкладна $6000–7000 за паўгады.

Безумоўна, з улікам таго, што і я, і мая жонка зараз студэнты, няма аніякай таямніцы ў тым, што у цяперашні час мы павінны адмаўляцца ад некаторых відаў адпачынку, абмяжоўваць некаторыя выдаткі, і нават прадалі адну з машын.

**Паводле generation.by**

# ПАД ДАХАМ
## ЕЎРАПЕЙСКАГА ДОМА

**«Мой дом – мая крэпасць», – кажуць ангельцы. Французы, магчыма, сказалі б: «Мой дом – маё люстэрка». Скандынавы ж, надоўга задумаўшыся, верагодна адзначылі б прастату свайго жылля. Так як жывуць еўрапейцы?**

Традыцыйны ангельскі дом адрозніваецца ад французскага, як ангелец ад француза. Іншымі словамі, яны не маюць амаль нічога агульнага. Нішто, мабыць, не адлюстроўвае ў такой ступені нацыянальныя асаблівасці, культуру і менталітэт чалавека, як яго жыллё.

***

Ангельцы вядомыя сваёй кансерватыўнасцю, і гэта ў поўнай меры датычыцца іх жылля. Іх дом – гэта замкнёны, адасоблены свет. Жыллё ў Англіі – гэта, перш за ўсё, асобныя дамы, будзь яны ў сельскай мясцовасці альбо ў «вялікім Лондане». Тыповы англійская дом у віктарыянскім стылі выкладзены чырвонай цэглай, мае чарапічны дах і сіметрычна размешчаныя вокны. Высокі ўваход вядзе да ярка афарбаваных дзвярэй – іх колер вызначаецца не густам і выбарам гаспадара, а прапісаны ў законе.


Ангельскі пакой

Інтэр'ер традыцыйнага ангельскага дома вельмі спецыфічны: камін з абцугамі і вядзерцам для вугалю абавязковы, незалежна ад таго, топіцца ён ці не. Гэтак жа традыцыйныя падстаўка для парасонаў і трысцін у пярэднім пакоі і столік на колцах або на складных ножках для сняданку ў ложку.

Сцены пакояў брытанцы любяць упрыгожваць вышытымі карцінамі і глінянымі або металічнымі талеркамі. Бронзавыя статуэткі – вядома ж, сабакі і коні – таксама з'яўляюцца характэрнай рысай ангельскага інтэр'еру. Усё самавіта і з годнасцю.

У брытанскіх дамах нярэдка можна сустрэць прадметы мэблі ў каланіяльным стылі. Гэта спадчына часоў Брытанскай імперыі, калі амаль у кожнай сям'і хто-небудзь са сваякоў служыў у Індыі і вяртаўся з мноствам экзатычных прадметаў.

Жыхары імглістага Альбіёна ў афармленні свайго дома ніколі не дапусцяць той легкадумнасці і «бязладдзя», якія ўласцівыя французам, што ўявілі сябе заканадаўцамі моды не толькі ў вопратцы, але і ў інтэр'еры.

***

Французы любяць шпалеры з буйным кветкавым арнаментам, з золатам і пурпурам, мяккія крэслы, якія альбо імітуюць стыль аднаго з Людовікаў, альбо такімі і з'яўляюцца. Часцей за ўсё гэта бывае, калі яны дасталіся ад бабулі і не былі выкінутыя на памыйніцу ў перыяд усеагульнага захаплення мінімалізмам.

Як правіла, французская кватэра адрозніваецца багаццем вытанчаных дробязяў самых розных стыляў і кірункаў. Мноства гарбатных, туалетных і кветкавых столікаў, жардын'еркі, кансолі, палічкі і люстэркі, вазы, шкатулкі і падсвечнікі, цяжкія гардзіны з пэндзлямі, партрэты ў пазалочаных рамах на сценах, прычым людзей, а не сабак або коней – усё гэта тыповы французскі дом.

***

Скандынавы – людзі марудлівыя, але грунтоўныя. Такое ж у іх і жыллё. Скандынаўскі лад жыцця сфармаваўся ва ўмовах суровага паўночнага клімату і пратэстанцкай рэлігіі. Суровая прырода не церпіць вычварнасці і празмернасцяў, а рэлігія загадвае старанна працаваць, але не выстаўляць сваё багацце напаказ.

Доўгія халодныя зімы, блізкасць мора і пранізлівы вецер прымусілі паўночнікаў засяродзіцца на абароне жылля ад знешніх уздзеянняў. Скандынаўскія пратэстанты, не ў прыклад французам, не схільныя пускаць пыл у вочы і займацца залішнім упрыгожвальніцтвам.

Скандынаўскі дом, як правіла, адно- або двухпавярховы, з прасторным агульным пакоем, які дае магчымасць паменшыць выдаткі на ацяпленне. Часта тут робяць вялікія панарамныя вокны. Яны, з аднаго боку, даюць магчымасць любавацца прыродай, а з другога, забяспечваюць ў доме вялікую колькасць святла: паўночны дзень кароткі. Адгэтуль жа, напэўна, і прыхільнасць скандынаваў да светлай мэблі з нефарбаванага дрэва – хвоі і бярозы. З светлай драўніны робяць і аксэсуары – рамы карцін і люстэркаў, панэлі і ліштву, дзверы і вокны.


Жыллё француза


Італьянская віла

Паўночнікі аддаюць перавагу ўсяму натуральнаму, у тым ліку і ў інтэр'еры. Драўніна, лён і шэрсць да гэтага часу – любімыя матэрыялы для афармлення інтэр'еру.

***

У немцаў любімы дом – фахверкавы, з цвёрдым каркасам са стояк і бэлек. Сучасныя фахверкавыя хаты – гэта трывалыя і надзейныя будынкі, якія валодаюць надзейным драўляным каркасам. Тэхналогія «фахверк» шырока распаўсюджаная дзякуючы магчымасці зрабіць шкленне ва ўсю сцяну, каб запоўніць памяшканне натуральным святлом.

Зараз папулярныя два напрамкі: дэкаратыўная імітацыя фахверк і так званы «шкляны» фахверк. Першы варыянт імітуе знешні выгляд сярэднявечных пабудоў за кошт накладкі дэкаратыўных драўляных планак на абтынкаваныя сцены дамоў. «Шкляны» ж фахверк сумяшчае старадаўнія традыцыі з тэхналогіямі сучаснага шклення (шклопакеты, бязрамнае шкленне) і энэргазберажэння.

***

Італьянцы любяць маляўнічыя тэрасы, якія даюць спалучэнне адкрытай прасторы і абароненасці адначасова. Да таго ж яны паважліва ставяцца да свайго мінулага, асабліва да тых помнікаў, якія складаюць залаты фонд сусветнага дойлідства. Таму сучасныя вілы, катэджы і індывідуальныя дамы адрозніваюцца высокай культурай выканання, разнастайнасцю архітэктурных і дызайнерскіх рашэнняў. Улічваючы спякотнае лета, якое доўжыцца больш за 6-7 месяцаў, італьянскія дойліды імкнуцца стварыць жыллё, камфорт у якім мог бы быць забяспечаны ў любы час года.

Адна з неабходных умоў камфорту паўднёвага жылля – балконы (іх вынас ў межах палутара метраў) або абыходныя галерэі вакол усяго перыметру дома, якія ствараюць ў гарачую пару года ўтульную ценявую зону. Усе вокны, лоджыі маюць сонцаахоўныя прылады: жалюзі з дрэва, маркізы са шчыльнай каляровай тканіны або тонкай белай капронавай сеткі. Гэта не толькі функцыянальна неабходна, але і мае важную функцыю ў дэкаратыўным убранні дома, ствараючы разнастайны каляровай акцэнт на фасадзе дома.

***

Партугальцы аддаюць перавагу дамам ў маўрытанскім стылі. Катэджы Партугаліі вельмі падобныя па сваёй планіроўцы да італьянскіх. Але ў апошнія гады пры будаўніцтве загараднага жылля ўлады гэтай краіны вылучаюць тры асноўныя патрабаванні. Першае абмежаванне – нізкая паверхавасць, раўнамернасць забудовы і наяўнасць вольнай прасторы: гэта даніна і архітэктурнай эстэтыцы, і абароне таямніцы і недатыкальнасці прыватнага жыцця насельнікаў. Другое абавязковае патрабаванне – «экалагічнасць» дома. Менавіта таму сцены і дахі партугальскіх катэджаў і віл пакрытыя расліннасцю. І, нарэшце, трэці пункт – кожны дом павінен мець унікальны дызайн, які не паўтараецца ў іншых, асабліва бліжэйшых, пабудовах.

Увогуле, пакажы мне свой дом – і я скажу табе, хто ты.

**Паводле euro-pulse.ru і proftula.ru**

# ДЗЕ ХАВАЮЦЦА ПАЛЕШУКІ?

**Палессе – загадкавы край. Тут спрадвеку жылі не толькі дзяўчыны Алесі і жураўлі, што кожны год адмаўляюцца ад сумнеўных выгодаў вырая. Разам з жураўлямі і алесямі беларускія балоты і лясы насяляюць палешукі – народ, які амаль да сярэдзіны 20 стагоддзя лічыўся носьбітам архаічнай славянскай культуры.**

Вучоныя зацікавіліся Палессем з пачатку XIX ст, тут збіралі фальклорны матэрыял, у якім шукалі рэшткі міфалагічнага светапогляду продкаў індаеўрапейскіх народаў. Лічылася, што палескі край захаваў цэлы шэраг культурных з'яваў і элементаў, якія па суседстве ўжо нідзе ў той час не сустракаліся.

У пачатку XX стагоддзя даследчую працу на Палессі вёў выбітны польскі вучоны Юзаф Абрэмбскі, які замест збірання казак вырашыў адказаць на сур'ёзнае пытанне – да якога этнасу трэба аднесці палешукоў. Для гэта ён выправіўся на палескія балоты і, калі пешшу, калі на байдарках, начуючы ў намёце і гатуючы ежу на прымусе, вёў там даследаванні з 1934 па 1937 гады.

Раскажам пра некаторыя ягоныя высновы.

## У ПОШУКАХ ПАЛЕССЯ

Палессе займае тэрыторыю паўднёвай Украіны і паўночнай Беларусі. Гэта ўвесь абшар палескай катлавіны, абмежаваны з поўдня Валынскім узвышшам,ад возера Свіцязь да горада Корац, з поўначы – Наваградскім узвышшам, мяжа супадае з Берасцейска-Слуцкай шашой.

Але! Калі б мы разам з панам Абрэмбскім патрапілі на гэты абшар і паспрабавалі знайсці там палешукоў, гэта была б нялёгкая справа. Жыхары перыферыйных мясцінаў гэтага краю адмаўляюць сваю прыналежнасць да Палесся, прапаноўваючы шукаць яго далей у глыб тэрыторыі. Сябе ж звычайна атаясамліваюць з суседзямі: *валыняк, ліцвіны, поляне* і г.д.

*Нас тыж называють полэшукы. Мы тыж полэшукы. Тут скрізь полэшукы: Мызово і Шайно і скрізь. Алэ якые мы полэшукы? Тые там, шчо дальшэ жывуть, на глубоком Полісы – мы іх называемо полэшукы.Тые спід Ковля кажуть, шчо мы полэшукы. Шайно нэ прызнае, шчо оны полэшукы. Шайно кажэ на нас, Кругэль – на Шайно, на Кругэль – Кошары. Тых, шчо в Кошарах жывуть, то мабуть ужэ ніхто нэ называе полэшукы.*

*Якые мы полэшукы? Полэшук – то такый, шчо як ідэ до войска, то первый раз колей бачыў. Нэ знае, як вліcты, боітса. А як вліз, то стоіть, трясэцца. Полэшукы то ныц нэ знають.*

*(Мызава, Ковельскі павет)*

На ўскраінах тэрыторыі вобраз Палесся мае негатыўную ацэнку ў параўнанні са сваім краем. Часта прадстаўленне мясцовых жыхароў пра палешука адарванае ад тэрытарыяльнай і этнічнай асновы. Ён проста робіцца вобразам пэўнага сацыяльнага тыпу.Паляшук – дзікун, які захаваў рысы адсталасці і першабытнасці. Пры гэтым ён – папулярны персанаж, забаўная тэма для размоваў і здзекаў. Ягоная цемра і наіўнасць шырокавядомыя. Пра гэта сведчаць усялякія байкі ды аповеды пра палешукоў, якія ў іхных паўночных суседзяў вядомыя як байкі "про Сэмэна", які звычайна становіцца ахвяраю хітрых яўрэйскіх купцоў.

Знешне паляшука таксама надзяляюць рысамі дзікунства і адсталасці. У ягоным адзенні заўсёды прысутнічаюць архаічныя рысы – ён носіць тое, што ў сучасных вёсках даўно выйшла з ужытку: браныя чырвоныя паясы,плеценая з лыка торба, у жанчын – "кібалка" (падкладка пад хустку), абстрыжаныя валасы і г.д.

## НАРОД БЕЗ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Прасоўваючыся ў глыб Палесся, дзе жыхары ужо не адмаўляюць сваю прыналежнасць да палешукоў, вучоны сутыкнуўся з існаваннем разнастайных лакальных этнічных груп – *піньчукы, подгородцы, порэчукы* і г.д. Прычым уласная група зноў жа разглядаецца як прыклад вышэйшага ўзроўню культуры і цывілізаванасці, а чужой прыпісваецца адсталасць і першабытнасць. І амаль нідзе няма ўсведамлення еднасці усіх жыхароў палескай нізіны.

У часы пана Амбрэмскага Палессе знаходзілася "паза сферай інтэнсіўных уплываў і экспансіі нацыянальных групаў, якія прэтэндуюць на гэты народ". Людзей, якія б адносілі сябе да пэўнай нацыянальнасці, вучоны амаль не сустракаў.

Наогул жа, пытанні этнічнай прыналежнасці ці, хутчэй, паходжання з пэўнай мясцовасці для палешука непрыемныя, ён іх імкнецца пазбягаць. Вучоныя, якія ўвесь час прыязджаюць вывучаць "архаічную культуру" і "украінска-беларуска-руска-польскую трасянку", развілі ў мясцовым жыхары комплекс непаўнавартаснасці. Да родных мясцінаў у яго ганебныя пачуцці.

Сітуацыя, якую назірае на Палессі пан Юзаф – прапава новага часу. Вучоны ўпэўнены, што раней палешукі ганарыліся сваёй радзімай і любілі яе. Але у пачатку 20 стагоддзя архаічнае грамадства пачало разлагацца. Праўда, засталіся яшчэ людзі, пераважна старыя, якія выказваюць этнічны гонар, засталіся і "рэгіянальныя выспы", куды працэс разлажэння яшчэ не дабраўся.

На жаль, імкненне большасці палешукоў адрачыся сваёй бацькаўшчыны і далучыцца да іншай этнічнай групы прымушае Юзафа Абрэмбскага зрабіць выснову: "*У любым выпадку, цяпер жыхары Палесся ў сваёй пераважнай масе – не ўкраінцы і не беларусы. Перастаюць яны быць і палешукамі, робячыся народам без бацькаўшчыны*".



### СУЧАСНАСЦЬ

Па выніках Другой сусветнай вайны тэрыторыя былога Палескага ваяводства Польшчы ўвайшла ў склад СССР і была падзеленая паміж Беларускай ССР і Украінскай ССР. Палешукам нічога не заставалася як



прыняць сваю новую нацыянальнасць (улічваючы іх абыякавасць да нацыянальных пытанняў, "здаліся" яны без бойкі). У канцы 80-х была спроба ўзняць аўтанамісцкі рух на Палессі і назваць палешукоў асобным народам, які вядзе карані ад племя яцвягаў. Думаецца, што ажыццявіць гэтую ідэю перашкодзілі не столькі палітычныя праціўнікі, колькі варожасць мясцовых жыхароў да нацыянальнай тэмы.

**ДАВЕДКА «ДЗЕДЗІЧА»:**

Юзаф Абрэмбскі (1905 – 1967).

Вучоны-антраполаг, этнограф.

Нарадзіўся ў в. Цеплік Вінніцкага павета ва Украіне, дзяцінства правёў у беларускім маёнтку пад Слонімам. Вучыўся ў Варшаве, потым у Кракаве ў Ягелонскім універсітэце на факультэце славістыкі. Вывучаў антрапалогію ў Лонданскай школе эканомікі ды палітычных навук.

Праводзіў палявыя даследванні ў Македоніі. Вывучэнне культуры і этнасу на Палессі пачаў пад час супрацоўніцтва з Інстытутам даследавання нацыянальных справаў (Варшава), потым – пад патранажам Дзяржаўнага інстытута культуры вёскі, у якім заняў пасаду намесніка дырэктара.

У 1946-м чытае лекцыі ў Оксфардзе. Потым праводзіць даследаванні на Ямайцы. Эксперт ААН у Нью-Ёрку ў справах краінаў, якія вызваляюцца ад каланіялізму. У 60-я выкладаў у нью-ёркскіх універсітэтах.

Сёння навуковая спадчына Абрэмбскага. даступная ў архіве ўніверсітэта горада Амхерст штата Масачусетс. У 2007 годзе у Польшчы выйшаў зборнік парц Ю.Абрэмбскага "Палессе".

**Альбіна ТРУС. Здымкі Ю. Абрэмбскага**

# ЯНЫ РАТУЮЦЬ ЖЫЦЦІ

**Беспрытульныя жывёлы змогуць знайсці дом, дзякуючы акцыі грамадскага аб'яднання "Дабрыня".**



Актывісты аб'яднання зладзяць выставу бяздомных жывёлаў, якія знаходзяцца на утрыманні арганізацыі. 31 сакавіка на другім паверсе кінатэатра "Беларусь" кожны жадаючы зможа выбраць для сябе коціка альбо сабачку. А таксама, па папярэдняй дамове з арганізатарамі, можна выставіць жывёліну, якую вы падабралі на вуліцы (нельга прыносіць хатніх жывёлін).

Усе зверкі мусяць мець даведку ад ветэрынара пра стан здароўя. Хворыя і брудныя жывёліны да выставы не дапушчаюцца, таму можаце смела браць з выставы гадаванца сабе дахаты.

***

Актывісты Берасцейскага грамадскага аб'яднання дапамогі жывёлам "Дабрыня" з'яўляюцца яскравым прыкладам тых людзей, што бескарысліва гатовыя абараняць слабых і бездапаможных. Жывёлы не могуць заяўляць пра свае беды, не могуць дамагацца выканання права нават на жыццё. Таму не заўважаць іх пакуты і нават здекавацца з іх вельмі проста.

Але сёння ў нашым горадзе з'яўляецца ўсё болей людзей, якія ахвяруюць сваім часм, сіламі і грошамі дзеля служэння Дабрыні.

Грамадскае аб'яднанне "Дабрыня" з'явілася ў 2010 годзе дзякуючы намаганням дзвюх добрых жанчын – Тацццяны Сядовай і Алены Оргіш. Арганізацыя аказвае дапамогу братам нашым меншым разнастайнымі шляхамі: яе сябры даглядаюць за беспрытульнымі жывёламі, часта бяруць на утрыманне да той пары, пакуль не знойдуць гаспадара (але гэта цяжка ажыццявіць без наяўнасці прытулку); за свае грошы робяць стэрылізацыю вулічным жывёлінам, каб паменшыць колькасць прысуджаных на бадзянне і галодную смерць новым коткам і сабакам; праводзяць акцыі дзеля папулярызацыі гуманнага стаўлення да жывёльнага свету.



Адна з галоўных задач арганізацыі – дамагчыся стварэння прытулку для беспрытульных жывёлаў. Справа гэтая не такая лёгкая, як можа здавацца на першы погляд. Ужо цягам двух гадоў актывісты просяць гарадскія ўлады даць ім памяшканне пад прытулак. Здавалася б, у горадзе хапае занядбаных гаражоў і пабудоў вайсковых частак. Але пакуль намаганні безвыніковыя. Стварыць немагчыма яшчэ таму, што ў нашым заканадаўстве няма паняцця "прытулак", а без гэтага – ніяк.

Сёння зоаахоўныя арганізацыі па ўсёй Беларусі імкнуцца паўплываць на рэформу заканадаўчай базы, якая рэгламентуе адносіны чалавека і жывёльнага свету.

*Тэлефануй:* ***(033) 318 - 9 - 318***
*Грашовыя сродкі адпраўляць сюды:*
***Брестское общественное объединение помощи животным «Доброта» (БООПЖ «Доброта»), р/с 3015260890014 в отд. 403 ГФ по Брестской области ОАО «Белинвестбанк», МФО 150501823,УНП 290927236.***
***Назначение платежа - добровольное пожертвование.***

## ЧЫМ МОЖАШ ДАПАМАГЧЫ ТЫ?

Па-першае, грашовымі сродкамі. На стэрылізацыю, догляд за беспрытульнымі жывёлінамі, харчаванне і медыкаменты патрэбныя немалыя грошы. Сродкі можна перавесці на рахунак арганізацыі праз банк.

Па-другое, іншай матэрыяльнай дапамогай ў выглядзе корму, лекаў, клетак і г.д.

І вядома, дзеяннем: ты можаш прымаць удзел у акцыях, распаўсюджваць інфармацыю і проста дапамагаць тым жывёлам, што жывуць побач.

**Альбіна Трус**

# АРХІТЭКТУРНЫ АВАНГАРД ЗА НАВАКОЛЬНАЕ АСЯРОДДЗЕ

## У ПАРЫЖЫ ПАБУДУЮЦЬ СТУДЭНЦКІ ІНТЭРНАТ ЗДРАЎЛЯНЫХ ПАДДОНАЎ.

Гэты ўнікальны, адважны і, на першы погляд, амаль абсурдны праект інтэрната ў Парыжы, на вуліцы Амелот – творчая праца спецыялістаў з французскай архітэктурнай студыі Stephane Malka. Аб'ект-паразіт трывала замацаваны да глухой сцяны аднаго са сталічных будынкаў, не замінаючы яго ўласнаму ўнутранаму жыццю, суіснуючы функцыянальна і рацыянальна.

Рэалізацыя праекта нічога не руйнуе і нічога не адымае ў старадаўняга еўрапейскага горада, пакідаючы яму каштоўныя квадраты тэрыторыі і індывідуальнасць раёна.

Акрамя таго, асноўнымі матэрыяламі дэкору экстэр'ера сталі другасна скарыстаныя драўляныя паддоны, упадабаныя за апошнія гады дызайнерамі і архітэктарамі ва ўсім свеце. Гэтыя досыць далікатныя элементы, зразумела, замацаваныя на трывалы каркас.



Экстравагантны, але дэмакратычны дызайн структуры Innovative Student Housing прадугледжвае яе напаўпразрыстасць, якая мусіць ахоўваць прыватнасць жыцця сваіх насельнікаў і прапускаць у памяшканні дастатковую колькасць натуральнага дзённага святла.

Модульнасць розных камбінацый паддонаў стварае разнастайную геаметрыю, якая заснавана на другасным выкарыстанні матэрыялаў, якія не патрабуюць складанай дадатковай апрацоўкі і не ствараюць пабочных прадуктаў вытворчасці, што забруджваюць навакольнае асяроддзе.

Па меркаванні аўтараў праекта, рэальны экалагічны падыход складаецца не ў разбурэнні, але ў лаяльным накладанні дэмакратычных інавацый на існую архітэктурную спадчыну старадаўняга горада. Гэта новая, эфектыўная і гуманная стратэгія выкарыстання гарадской прасторы.

**www.novate.ru**

# АБІРАЕМ ЛЕПШЫЯ БЕЛАРУСКІЯ ТВОРЫ

**Некаторыя кажуць, што "беларуская мова – бедная мова. Потому что на беларускай мове нельзя сказать что-то великое". Абвергнуць гэтае спрэчнае сцвярджэнне актывісты "Дзедзіча" прапаноўваюць з дапамогай складання ТОП-100 празаічных твораў на беларускай мове.**

## АКЦЫЯ ТОП-100 «УКАНТАКЦЕ»

У межах кампаніі "Наша мова" АРР "Дзедзіч" адкрывае галасаванне за выбар найлепшай прозы на беларускай мове. Спачатку ў адмысловай суполцы «Укантакце» будзе наладжана абмеркаванне, якія творы вартыя таго, каб апынуцца ў рэйтынгу "ТОП-100 беларускай прозы". Кожны ахвотны можа дадаваць свае прапановы ў гэты спіс.

Збор прапановаў будзе цягнуцца да 25 сакавіка. Пасля гэтага на сайце "Дзедзіча" будзе наладжана галасаванне за выбар лепшых з прапанаваных варыянтаў.

Кіраўнік "Дзедзіча" Дзмітрый Шыманскі асноўнай мэтай акцыі бачыць заахвочванне моладзі да чытання беларускай літаратуры:

*– Як вядома, моладзь імкнецца мець усё самае папулярнае, самае топавае, з вышэйшых пазіцый рэйтынгу. Глядзяць самыя рэйтынгавыя фільмы, слухаюць самую папулярную музыку. Чытаць усё запар са школьнай праграмы часам бывае сумна, а бывае патрапіцца нешта такое, што пасля наогул нічога чытаць не хочацца. Давайце паспрабуем зацікавіць маладых людзей найлепшым. А далей, прызвычаіўшыся да чытання беларускага, яны самі будуць пашыраць спіс сваіх любімых кніг.*

Увага!!! Каб дадаць свае прапановы ў спіс, калі ласка, заходзьце сюды: http://vk.com/nasha_mova_top_100. Напішыце ў каментах імя і прозвішча пісьменніка, а пасля – назву твора, які вы прапаноўваеце ў гэты спіс.

Нагадаем, што кампанія "Наша мова" была ініцыяваная берасцейскімі арганізацыямі "Дзедзіч", "Аазіс" і "Моладзь БНФ" у 2011г. і мае на мэце папулярызацыю беларускай мовы сярод моладзі.

Кампанія выкарыстоўвае розныя формы працы з насельніцтвам (флэш-мобы, улёткі, збор подпісаў, рэклама беларускай літаратуры ў грамадскім транспарце) і выклікала шырокі рэзананс, актыўна абмяркоўваецца на рэгіянальных сайтах і ў сацыяльных сетках.




# АГЛЯД СТЫПЕНДЫЙ У ЕЎРАПЕЙСКІХ ВНУ

## СТЫПЕНДЫІ НА НАВУЧАННЕ Ў НЯМЕЧЧЫНЕ

**Аб'яднанне студэнцкага абмену ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе (GFPS) беларускіх студэнтаў і магістрантаў на навучэнне ў нямецкім універсітэце на працягу зімняга семестра 2012-2013.**

Атрымаць стыпендыю могуць школьнікі ад 16 гадоў, студэнты і магістранты. Зімні семестр працягваецца з 1 кастрычніка 2012 па 28 лютага 2013.

Апошні тэрмін падачы заявак – 10 красавіка 2012 г.

Патэнцыйны стыпендыят:
- валодае нямецкай мовай на добрым узроўні;
- прымае актыўны ўдзел у грамадскім і/альбо культурным жыцці Беларусі;
- паспяхова вучыцца;
- хоча бліжэй пазнаёміцца з нямецкай культурай і грамадствам.

Абавязковыя ўмовы для падачы заяўкі:
- беларускае грамадзянства;
- статус навучэнца беларускай ВНУ (альбо ЕГУ).

Стыпендыя ўключае:
- асабістую падтрымку і дапамогу на месцы навучання – Вас забяруць з вакзала, паклапоцяцца пра Ваша жытло і залічэнне;
- фінансавую падтрымку, дастатковую для бесклапотнага навучання і жыцця ў Нямеччыне;
- візавы ўнёсак і плату за залічэнне.

Падрабязней на сайце www.gfps.org/belarus

## ЛЕТНЯЯ ШКОЛА ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

**Фундацыя Генрыха Бёля аб'яўляе аб прыёме заявак для сваёй чацвёртай "Летняй школы для маладых людзей з Беларусі", якая адбудзецца ў Берліне 7-19 жніўня 2012 года.**

Фундацыя Генрыха Бёля з'яўляецца часткай зялёнага палітычнага руху, які развіваецца ва ўсім свеце ў адказ на традыцыйную палітыку сацыялізму, лібералізму і кансерватызму. Яго асноўныя прынцыпы: экалогія і ўстойлівае развіццё, дэмакратыя і правы чалавека, самавызначэнне і справядлівасць.

12 маладым людзям з Беларусі прадастаўляецца магчымасць даведацца аб бягучых палітычных і сацыяльных працэсах прыняцця рашэнняў у Германіі ў розных галінах палітыкі на мясцовым, рэгіянальным, нацыянальным і еўрапейскім узроўні.

Паўдзельнічаць могуць рэзідэнты Рэспублікі Беларусь ва ўзросце 19-28 год з паглыбленым веданнем англійскай мовы. Праграма накіравана на маладых людзей, якія ўжо працуюць валанцёрамі ці працуюць у арганізацыях грамадзянскай супольнасці і сацыяльных, экалагічных і моладзевых рухах.



Удзел бясплатны. Фундацыя Генрыха Бёля пакрывае візы і расходы па праграме, а таксама выдаткі на дарогу, харчаванне і пражыванне падчас Летняй школы.

Дэдлайн: 30 сакавіка 2012 года.

dzedzich.org

## СТЫПЕНДЫІ Ў АЎСТРЫІ

**Стыпендыі прадстаўляюцца на навучанне на базавых універсітэцкіх курсах (бакалаўрыят), ці для студэнтаў, якія ўжо скончылі ВНУ ў сваёй роднай краіне на навучанне па магістэрскай ступені.**

Запрашаюцца выпускнікі школ, бакалаўры, магістры.

Дапамога аказваецца ў асноўным студэнтам, якія жадаюць навучацца ў галінах тэхналогіі, прыродазнаўчых навук, эканомікі.

Стыпендыі прысуджаюцца на навучанне ў Аўстрыі, стыпендыяты павінны атрымаць універсітэцкую ступень ў Аўстрыі.

Стыпендыя выдзяляецца тэрмінам да 4 год ці на мінімальную працягласць навучання, кожны раз на 1 год. Падаўжэнне атрымання стыпендыі залежыць ад дасягненняў студэнта.

Стыпендыя уключае: аплату за навучанне, пакрыцце выдаткаў на пражыванне і падручнікі да 12 000 еўра на акадэмічны год. Пры неабходнасці дадаткова выдзяляецца падарожны грант да 1 000 еўра на год.

Стыпендыятам акажуць падтрымку і дапамогу ў атрыманні візы, страхоўкі, моўных курсаў і пошуку жылля.

Кожны год выдзяляецца ад 10 да 14 стыпендый.

**ПАТРАБАВАННІ ДА КАНДЫДАТАЎ:**

Кандыдаты павінны быць грамадзянамі афрыканскіх, азіяцкіх краін, ці краін цэнтральнай і усходняй Еўропы, хто:
- мае права на паступленне ў Аўстрыйскі універсітэт, ці ўніверсітэт ў сваёй роднай краіне;
- цікавіцца магчымасцю навучання ў Аўстрыйскім універсітэце ці тэхнічным каледжы;
- не старэйшы за 23 гады (на час дэдлайну падачы заяўкі).

Усе дакументы на суісканне стыпендыі павінны быць атрыманы у офісе "Аўстрыйскай прыватнай фундацыі Мондзі" да 31 мая 2012.

**КАБ АТРЫМАЦЬ СТЫПЕНДЫЮ НЕАБХОДНА ДАСЛАЦЬ У АДРАС ФУНДАЦЫІ НАСТУПНЫЯ ДАКУМЕНТЫ:**
- форму заяўкі;
- рэзюмэ;
- матывацыйны ліст;
- выпіску аб адзнаках;
- апісанне мэты даследвання;
- два рэкамендацыйныя лісты ад выкладчыка ці працадаўцы;
- усе дакументы павінны быць на ангельскай ці нямецкай мовах.

dzedzich.org

## ДАРЭЧЫ

Вось цікава. Навошта замежнікі ездзяць за мяжу? Яны ж і так за мяжой!!!

***

Муж хацеў завесці палюбоўніцу, я адгаварыла - маўляў, дорага, не пацягнем. Лепш я завяду палюбоўніка. Лішняя капейка ў хаце не перашкодзіць.

***

Старыя батарэйкі Duracell ляжаць у шафе ў 10 раз даўжэй, чым звычайныя батарэйкі.

***

Злым настаўніцам пасля сэксу ніколі не бывае добра, ім бывае «здавальняюча».

***

Наўрад ці нашы бацькі 20 гадоў таму маглі меркаваць, што падрыхтоўка да іспыту будзе ўяўляць сабою фатаграфаванне канспекта тэлефонам.

***

Надпіс на ўваходзе ў гей-клуб:
«Уваход ззаду».

***

- А ў цябе ёсць машына?
- Ну пакуль няма...
- А калі будзе?
- А цябе ў хлопцах толькі машыны цікавяць?
- Ну, хлопец без машыны – не хлопец.
- А калі ў цябе сіські будуць?!

***

Жанчына тэлефануе дыетолагу:
– Доктар, мне здаецца, у мяне лішняя вага.
– Чаму вы так вырашылі?
– Ды вось, купіла сёння шалі, якія размаўляюць, узважылася на іх.
– І што ж яны вам сказалі?
– Яны сказалі: «Па адным, калі ласка».

***

У Расеі ўсё відавочна: у краіне, дзе ёсць Стары Новы год, павінен быць стары новы прэзідэнт.

***

Адна жанчына ўстала на шалі, і яны разваліліся пад ёй. Таму яна так і не змагла зразумець, ёсць у яе залішняя вага, ці няма.

***

Сёння пабіў рэкорд па колькасці пражытых мной дзён.

***

Мужык з фотамадэллю заходзяць у адну з самых дарагіх футравых крамаў.
- Пакажыце вашу самую дарагую норкавую футру, - кажа мужык прадаўцу.
Той прыносіць прыгожую футру з норкі. Дзяўчына яе апранае. Выдатна.
- Гэта шуба каштуе 30 тысяч даляраў, - кажа прадавец.
- Ніякіх праблем! Я выпішу чэк.
- Вельмі добра. Сёння субота. Вы можаце забраць футра ў панядзелак, пасля таго, як чэк будзе пацверджаны ў банку.
Мужык з дзяўчынай сышлі. У панядзелак ён зноў з'яўляецца ў краме.
Убачыўшы яго, прадавец успыхнуў:
- Як вам не сорамна з'яўляцца тут?! На вашым рахунку нічога няма!
- Я проста зайшоў падзякаваць вам за адну з лепшых начэй у маім жыцці.

Калі мяне пачалі біць у дзіцячым лагеры - мае бацькі не сталі бяздзейнічаць. Яны застрахавалі маё жыццё і запісалі яшчэ на дзве змены.

***

У цябе вышэйшая адукацыя? Ці нават дзве?
Зрабі хатняе заданне са школьнікам 4-га класа па сучасных падручніках - адчуй сябе ідыётам!

***

Вовачка шалее на ўроку. Раззлаваная настаўніца дае яму падзатыльнік і кажа:
- Каб заўтра прывёў мне свайго бацьку.
Вовачка:
- Ага, зараз! Я ўжо адной такой прывёў. Дык ужо год не магу назад забраць.

***

Размаўляюць дзве бландынкі.
- Ты выпадкова не ведаеш, на які дзень выпадае 8 Сакавіка?
- Па-мойму, пятніца.
- Ды ты што! Спадзяюся, не пятніца 13-га?

***

Мужык на драбіне заязджае ў сяло:
- Людзі! Я вугаль прывез! !
Увесь у мыле, забіты ў хлам конь паварочваецца:
- Ага, блін, ТЫ прывез.

***

Учора сон прысніўся, як прыехала да мяне ў госці Памэла Андарсан, а я шпалеры клею. Яна кінулася мне дапамагаць! І ўсё так рэальна было, што калі прачнуўся, блін, нават клей на руках застаўся.

***

Выкладчык кажа студэнту:
- Сёма, вы ў гэты раз залік не атрымаеце, і мець зносіны мы з вамі будзем яшчэ доўга-доўга. Я да вас у кастрычніку яшчэ на прысягу прыеду.

***

Кіроўца маршруткі паўстаў з мёртвых пасля таго, як працаўнік морга гучна пляснуў дзвярыма.

***

Дзеці, якія нарадзіліся на пачатку студзеня, атрымліваюць імя дзесьці пасля 18-га чысла!

***

Асноўны чыннік росту дзіцячай жорсткасці - пазлы на 2000 дэталек.

***

Зімовыя ўспаміны: неяк уначы градуснік пастукаў у акно і папрасіў упусціць у хату.

***

Адбяры ў народа гісторыю - і праз пакаленне ён ператворыцца ў натоўп, а яшчэ праз пакаленне ім можна кіраваць як статкам.
© Паўль Езэф Гебельс.

***

Навіны з Беларусі: Нечакана масавымі народнымі гуляннямі па ўсёй краіне скончыўся паказ балета «Лебядзінае возера» па нацыянальным тэлебачанні.

***

Еду на машыне, усе пешаходы – казлы. Іду пешшу, усе вадзілы – казлы. Еду на ровары, – наогул усе казлы!

***

На лекцыі па лінейнай алгебры выкладчык штосьці піша на дошцы. На апошняй парце студэнты гуляюць у карты. Адзін з іх штосьці не так пакрыў і другі на ўсю аўдыторыю:
- Ты што, зусім афігеў!
Выкладчык:
- Спакойна! Зараз усё растлумачу.

У студэнцкім інтэрнаце знік кот. Вось такія пірагі.

***

Размаўляюць два выкладчыкі:
- Вось калі я на іспыце пастаўлю хоць адну чацвёрку, мяне цэлая група будзе насіць на руках!
- А калі я на іспыце пастаўлю хоць бы адну тройку, то мяне цэлая група будзе насіць на руках!
Міма праходзіць дэкан. Падлучаецца да гутаркі:
- А калі я вас абодвух звольню, то мяне цэлы факультэт на руках насіць будзе! Цэлы семестр!

***

Маладыя бацькі прывезлі свайго нованароджанага сына да лекара. Лекар агледзеў яго і сказаў:
- У вас вельмі прыгожае дзіця.
- Вы напэўна кажаце гэта ўсім новаспечаным бацькам.
- Не, толькі тым, чые дзеці сапраўды сімпатычныя.
- А што ж вы кажаце астатнім?
- «Ваша дзіця так на вас падобнае!».

***

Рамонт кватэры ў стылі «хай-тэк», плаўна перайшоў у стыль «хай-так», і скончыўся стылем «хрэн-з-ім»!

***

Настаўніца правярала сачыненні і плакала: цяпер яна ведала, як правесці лета, але гады ўжо не тыя.

## 5 САМЫХ ДОБРАПРЫСТОЙНЫХ ЗЛОДЗЕЯЎ

1. Злодзей, які выкраў наўтбук прафесара шведскага ўніверсітэта Umea, вярнуў усё яго змесціва на флэшцы. Калі прафесар заўважыў страту наўтбука, ён апынуўся ў шокавым стане, бо там былі запісы 10 гадоў працы. Аднак, злодзей апынуўся настолькі прыстойным, што праз некаторы час вярнуў прафесару флэшку, куды была скапіявана ўся інфармацыя.

2. У адзін з дамоў Ніжняй Саксоніі ўварваўся ўзброены рабаўнік. Пакуль ён пагражаў пісталетам няні, двое дзяцей 7-мі гадоў прынеслі яму ўсе свае зберажэнні, каб ён пакінуў жанчыну ў спакоі. Рабаўнік быў так расчулены гэтым учынкам, што сышоў з хаты, не ўзяўшы ні капейкі.

3. У кастрычніку 2011г. злодзей сцягнуў з прыпаркаванага аўтамабіля 2 мабільныя тэлефоны і кашалёк. Калі ён зазірнуў у адзін з тэлефонаў, то ўбачыў там здымкі дзіцячай парнаграфіі. Гэта ўсяліла ў яго настолькі моцную агіду, што ён здаўся ўладам каб дапамагчы расследаваць гэты выпадак. Дзякуючы садзейнічанню злодзея быў арыштаваны 46-гадовы мужчына. У якасці пакарання няўдалага злодзея прысудзілі ўсяго да месяца турмы і штрафу.

4. Злодзей з Саудаўскай Аравіі, які так і застаўся невядомым, вярнуў сапраўднаму ўладальніку ювелірныя ўпрыгожванні, выкрадзеныя ў яго больш за 10 гадоў таму. Па словах гаспадара ўпрыгожванняў, да яго ў дзверы пагрукалі пасярод ночы. Адчыніўшы дзверы, на парозе ён знайшоў торбу, у якой і знаходзіліся ўпрыгожванні, а таксама ліст з выбачэннямі.

5. Бразілец, які скраў аўтамабіль, вярнуў машыну яе гаспадару пасля таго, як той патэлефанаваў на мабільны тэлефон, пакінуты ў машыне, і паведаміў злодзею, што ён перажывае цяпер фінансавыя цяжкасці.

**Дзедзіч** ІНФАРМАЦЫЙНА-АНАЛІТЫЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
• **Заснавальнік:** ініцыятыўная група моладзі
• **Распаўсюджваецца бясплатна**
• **Падпісана ў друк** 21.03.2012 года у 18-00
• **Папера** афсетная, фармат А4, 1,5 ул.-друк. аркуша,
• **Гарнітура** Helios
• Надрукавана на памнажальнай тэхніцы сябраў рэдакцыі
**Галоўны рэдактар:** Дзмітрый ШЫМАНСКІ.
**Рэдакцыйная калегія:** Ю. Агіевіч, П. Белавус, П. Дайлід, Г. Когаць, К. Шэлест. **Адказны за выпуск:** Альбіна ТРУС.
• **Кантактныя тэлефоны: (029) 660-57-41, (029) 724-21-16.**
• **E-mail:** dzedzich@dzedzich.org. **Інтэрнэт:** www.dzedzich.org
• Пры выкарыстанні матэрыялаў бюлетэня спасылкі на крыніцу абавязковыя
• Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў і друкаваць артыкулы для далейшай палемікі
• **Наклад** 299 асобнікаў